# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

№ 5. | Сьнежань 1921. | Год I.

## СЕЛЯНЕ!

**Польскія паны склікаюць на 8-е Студзеня 1922 г. ў Вільні Сойм—трэба нам быць на варце!**

**Толькі здраднікі ды падлыжнікі панскія пойдуць на выбары ў Віленскі Сойм!**

**Толькі адкрытыя ворагі працоўнага народу пададуць свой голас за панскіх кандыдатаў!**

**Годзе маны ды ашуканства!**

**Годзе прынуку цярпець!**

**Вон з панскім соймам!**

**Хай згіне паншчына!**

**Байкатуйце выбары ў Віленскі Сойм!**

**Усьведамляйце цёмных ды адсталых!**

## Сьнежань 1921 г.

Польскія імпэрыалісты, захапіўшыя старадаўную сталіцу Беларуска-Літоўскага Князьства Вільню, стараюцца ўселякімі спосабамі і надалей утрымаць сваё панаваньне, а тубыльцаў гэтага краю—беларусаў і літоўцаў зрабіць „пакорнымі падданымі Рэчыпаспалітай польскай“, або інакш кажучы: зрабіць нявольнікамі шляхэцка-абшарніцкай паразытычнай польскай хэўры.

От-жа, ў спрэчцы паміж Літвой і Польшчай з—за Вільні, мы павінны ўглядацца на справу з пункту гледжаньня абароны нашых селянскіх інтарэсаў.

Чытач далей знойдзе тлумачэньне, чаго лапчывыя польскія паны прыйшлі на Беларусь, прачытае і дэклярацыю літоўскага ўраду ў справе выбараў у віленскі сойм. Даволі цяпер паставіць радам „закон 17-га сьнежня 1920 г.“ прыняты варшаўскім соймам аб надзяленьні беларускай селянскай зямлёй польскіх жаўнераў і пункт з дэклярацыі літоўскага ўраду, што заселяная беларусамі і іх потам аблітая зямля застанецца ім самым, а не чужаземным каланістам“... Аб чым тут шмат і гугарыць, справа зусім ясная—кожны селянін сьвядомы сваіх рэальных інтарэсаў сам зробіць належныя вынікі.

Што датычыць дзержаўна-прававога палажэньня Віленшчыны, то аканчальнае вырашэньне гэтай справы магчыма, па нашай думцы, толькі тагды, калі паўстане да незалежнага дзержаўнага жыцьця вольная Беларусь.

Беларусь і Літва ў гістарычнай мінуўшчыне заўсёды жылі паміж сябе ў згодзе,—от-жа і ў будучыне знойдуцца шляхі, каб па ўзаемнай згодзе магчыма было варашаць усе супярэчныя пытаньні.

Аднак,—перш за ўсё і насам перад необходна прагнаць за Нарэў і за Буг польскіх акупантаў. Мы павінны ўспомніць старадаўную прыказку: помні, ляша—па Буг наша!

Хай-жа беларускі і літоўскі селянін стануць поплеч у змаганьні з польскай пачварай, хай магутны дадуць адпор ўсім панска—шляхэцкім насільствам ды зьдзекам!...

**Паддубіч.**

МЕЙ НА ЎВАЗЕ:
Справу долі Віленшчыны можа вырашыць толькі беларускі і літоўскі народ, а не польскія паны!

# Урадовая Дэклярацыя ў справе аб Віленскім Сойме,

## абвешчаная Міністрам—Старшынёй К. Грынюсам в Устаноўчым Сойме Літоўскай Рэспубліке 17-га сьнежня 1921 г.

Высокапаважаныя Сябры Устаноўчага Сойму!

15 га кастрычніка 1920 г. Урад Літоўскай Рэспублікі меў гонар заявіць Вам, што пытаньне аб акупаваных палякамі нашых усходніх землях адданы на вырашэньне Рады Лігі Нацый.

У якім становішчы знаходзіцца гэта справа, Урад будзе мець магчымасьць далажыць Вам другім разам, цяпер-жа мы стаімо перад мамэнтам пакушэньня на нашы дзержаўныя правы з боку акупантаў.

Не чакаючы, пакуль Ліга Нацый скажа апошняе слова ў нашай справе, Польскі Устаноўчы Сойм пастанавіў 16 лістапада г/г. зрабіць выбары ў некаторых акупаваных літоўскіх мейсцовасьцях, а іменна: у Лідзкім і Браслаўскім паветах. 30 таго-ж самага месяца, так званая улада „Сярэдняй Літвы“, якая была нелегальным шляхам створана ў восень 1920 году польскім вайсковым упраўленьнем, аб'явіла выбары ў Віленскі Сойм, які прэдпалагаецца склікаць 8-га студзеня 1922 году.

Гэта ёсьць яшчэ адзін нелегальны акт акупантаў, якім яны хочуць установіць факт прылучэньня Усходняй Літвы да Польшчы. Хочуць пакарыстацца фальсіфікаванай воляй насяленьня.

Гэны Сойм выбіраецца ў ненармальных варунках. Многа грамадзян, якія мелі-б права галасаваць, выгнана і ня могуць прымаць удзелу ў выбарах.

Многія, прыехаўшыя з чужых краёў, чужыя нашай староньцы людзі, будуць галасаваць у маючых адбыцца выбарах. Няма свабоды сабраньняў, друку і агітацыі.

Прасьлядуюцца няўгодныя акупацыйнай уладзе ўстановы і людзі.

У гэткіх варунках край ня можа свабодна выявіць сваю волю. Такія выбары і сам Сойм, калі-б ён і адбыўся, ня могуць быць прызнаны Літоўскай Рэспублікай.

Супроць такога замаху на права нашага Гаспадарства Урад Літоўскай Рэспублікі рашуча пратэстуе. Свой пратэст ён шле ў Лігу Нацый і ўсім гаспадарствам.

Пратэстуючы проці новых абманных шагоў акупантаў, Урад Літоўскай Рэспублікі заяўляе, што ён, йдучы к аб'еднаньню ўсей Літвы, не мае замеру ўціскаць правы населеньня Усходняй Літвы ў будаваньні сваіх жыцьцёвых інтарэсаў і ня думае навязваць ім мову і прымусовы парадак.

Тэрыторыя Усходняй Літвы, складаючы трэцюю часьць гаспадарства, будзе прымаць удзел у яго арганізаваньні і упраўленьні адналькова з іншымі вобласьцямі ў Сойме Літоўскай Рэспублікі і агульным Урадзе.

Усход Літвы павінен атрымаць мейсцовую аўтаномію з сваім Соймам у Вільні.

Віленскі аўтаномны Сойм будзе выдаваць свае законы ў справах, якія датычуць карыстаньня мейсцовымі мовамі, школьных, рэлігійных і культурных вымаганьняў, мейсцовых судоў, мейсцовай гаспадаркі і іншых пытаньняў, якія будуць яму азначаны агульным Дзержаўным Соймам.

Агульнаму Сойму Літоўскай Рэспублікі і агульнаму з Усходняй Літвой Ураду, у якім на агульных падставах будуць прымаць удзел і прэдстаўнікі аўтаномнай тэрыторыі, будуць прыналежаць тыя справы, без якіх гаспадарству было-б трудна абараніць сваю незалежнасьць, як: замежныя справы, абвешчаньне вайны і заключэньне міру, агульная армія, агульныя ўсяму гаспадарству фінансы і маемасьць, пагранічныя таможні, чугункі, маючыя агульна-дзержаўную вагу, Вышэйшы Судзебны Трыбунал, агульныя соцыяльныя рэформы.

У арганізаванай такім чынам Літоўскай Дэмократычнай Рэспубліцы ня будзе мейсца нацыянальным і Рэлігійным уціскам і нарушэньню грамадзкіх правоў.

Нашы браты, якія на гістарычным шляху адышлі ад нас сваей мовай і сваей культурай і ўсвоілі гэткія ад палякаў, могуць быць спакойны і пераконаны, што іх правы будуць паважацца, іх матар'яльныя і духоўныя інтарэсы будуць абаронены агульным Дзержаўным Соймам і аўтаномным Віленскім Соймам, іх школьныя і рэлігійныя інтарэсы будуць імі самімі арганізоўвацца і забезпечывацца ў іх культурна-аўтаномных установах.

Беларускі народ, з якім літоўцы мірна жылі сотні гадоў, можа быць пераконаны, што ў Літоўскай Рэспубліцы будуць абаронены яго мова, культура і рэлігія. Пад абаронай Гаспадарства пытаньні гэтыя будуць застаўлены ў веданьні культурна-аўтаномных устаноў.

Заселяная беларусамі і іх потам палітая зямля дастанецца ім самім, а не чужацкім каланістам.

Літоўскія грамадзяне жыдоўскай нацыянальнасьці прымаюць чынны удзел у дзержаўным будаўніцтве і арганізацыі і карыстаюцца шырокімі правамі. Гэтак і іх аднапляменнікі, што жывуць ва Усходняй Літве, могуць з поўным даверыем чакаць таго часу, калі ўвесь іх край злучыцца з намі ў Незалежную Літоўскую Рэспубліку. Жыдоўская мова, рэлігія і культура будуць пачытаемы, іх аўтаномныя інстытуцыі будуць Гаспадарствам даглядаемы, іх культурныя вымаганьні здавальняемы праз іх арганізацыі пры падтрымцы Гаспадарства.

Усе гэтыя прынцыпы справядлівасьці і права будуць прыменяцца і да іншыхъ нацыанальных меньшасьцяў.

Ужо некольк і сот гадоў таму назад, у часы рэлігійных, расавых і іншых уціскаў, Літоўскае Гаспадарства змагло мірна збудаваць жыцьцё быўшыхъ пад яго абаронай грамадзян некалькіх рэлігіяў, нацый і рас. Гэтакімі-ж самымі традыцыямі, толькі прыстасаванымі да новых часоў, будзе кіравацца Урад Літоўскай Рэспублікі і ў сваіх адносінах да Усходняй Літвы.

Ня ўхіліць яго з гэтага шляху ўнесяная суседнім польскім гаспадарствам в Усходнюю Літву, з імпэрыялістычнымі мэтамі, нацыянальная барацьба, знайшоўшая часовы адгалосак нават у Заходняй Літве.

Гэныя імпэрыялістычныя імкненьні Польскага Ураду не давалі Літоўскаму Ураду ў 1920 г. у кароткі срок перайсьці ад вайсковага упраўленьня асвабоджанымі вобласьцямі к нармальнаму парадку, перашкаджалі арганізаваць в Усходняй Літве мейсцовыя самаўрады і даць мейсцоваму насяленьню самому ўстроіцца.

Калі агульнымі высілкамі ўлада Польшчы будзе прымушана адмовіцца ад якіх-бы то ні было замахаў на Незалежнасьць Літоўскай Рэспублікі і паміж гэнымі абодвымі гаспадарствамі будуць устаноўлены справядлівыя межы, Літоўская Рэспубліка ўвойдзе ў добрыя суседзкія адносіны з Польшчай.

Па мінаваньні небязпекі для Літвы з боку Польшчы, нацыянальныя ўзаемаадносіны в Усходняй Літве хутка ўрэгулююцца.

Усе нацыянальнасьці, рэлігіі і расы насяленьня Усходняй Літвы знойдуць у Незалежнай Літоўскай Рэспубліцы абарону сваіх правоў, равенства і магчымасьць мірна ўжыцца адзін з адным.

Кіруючыся гэткімі прынцыпамі, Урад Літоўскай Рэспублікі сьмела глядзіць у сьветлую будучыну Злучанай Літвы.

**Урад Літоўскай Рэспублікі.**

ЗАПОМНІ ГЭТА:

Да таго часу ня будзеш мець зямлі, волі і лепшай сьветлай долі, пакуль гаспадарыць будзе ў нашым краі бязглуздая польская шляхта ды лапчывыя абшарнікі-паны!

# Трэ' быць на варце!...

І так, лапчывыя польсяія паны склікаюць у м. Вільні на 8-е студзеня 1922 г. Сойм „Сярэдняй Літвы“.

Ці прызадумаўся хто небудзь над такімі вось пытаньнямі: каму патрэбен Сойм „Сярэдняй Літвы“ ў м. Вільні? Чаму гэты Сойм склікае польская акупацыйная ўлада? Чаму выбары ў гэты Сойм павінны байкатаваць: беларусы, літоўцы і жыды?

Адказ на ўсе гэтыя запытаньні дужа ясны і просты: Віленскі Сойм, ці ўсё роўна: Сойм „Сярэдняй Літвы“ патрэбен адным толькі лапчывым польскім панам ды шляхце. Чаму гэтак?—А вось пачнём папарадку, уважліва толькі чытайце.

## Што такое сучасная Польшча?

Сучасная Польшча культурна і псыхолёгічна нічуць не зьмянілася з таго часу, якой яна была яшчэ ў сярэднія вякі—ўсё тая—ж бязглуздая шляхта правіць нешчасным краем, чмуціць народныя масы.

Польшча мучаніца ў недавнай мінуўшчыне—стала крывавым упыром у цяперашнім часе. Гэта не адны толькі словы. Польшча з першага—ж дня існаваньня сваей дзяржаўнай незалежнасьці, не пасьпеўшая скінуць з сваіх рук кайданаў няволі,—адразу, як той дзікі зьвер, кінулася на сваіх суседзяў: беларусаў, украінцаў, літоўцаў, агнём і мячом захопливае чужыя землі, насільствам ды рознымі ашуканствамі ўводзіць там свае панска-шляхэцкія парадкі.

Гэтак панска-шляхэцкая Польшча захіпала Віленшчыну і Горадзеншчыну, падняволіла беларускі і літоўскі народ.

## Чаго прыйшлі на Беларусь лапчывыя польскія паны?

Справа зусім ясная. Аб гэтым найкрасамоўней гаворыць прыняты ў Варшаўскім Сойме „Закон 17 сьнежня 1920 г.“ аб надзяленьні польскіх жаўнераў беларускай селянскай зямлёй.

У № 1 „Селянскай Долі“ мы пісалі, што польскія паны аружнай сілай захапілі беларускія землі—Віленшчыну і Горадзеншчыну і пастанавілі, што на гэтыя захопляныя землі магчыма будзе высяліць сваіх беззямельнікаў, а праз гэта захаваць сваю панскую зямельную ўласнасьць у Польшчы.

„І ваўкі—панскія земляўласьнікі будуць сыты, і авечкі—беззямельныя польскія селяне атрымаюць зямлю за кошт беларускіх селян.

„А каб перад усім сьветам апраўдаць гэты грабеж беларускага народу, палякі ўсюды і ўсім крычаць: „Віленшчына і Горадзеншчына—гэта ёсьць польскія землі і мы маем „права распараджацца гэтымі землямі“.

„Каб умацаваць якім небудзь чы нам сваё грабежнае „права“, палякі выдалі „закон 17 сьнежня 1920 г“.

„Выдаючы „гэты закон“, палякі праз яго ратуюць зямельную ўласьнасьць сваей шляхты ў самой Польшчы,—гэта першае; захоўваюць маёнткі польскае шляхты на Беларусі—гэта другое; утвараюць на Беларусі шмат новай польскай зямельнай буржуазіі, з якой з часам створацца новыя паны коштам прыгнёчаньня ды эксплоатацыі нашых беларускіх селян“.

От-жа, такім чынам выходзіць, што польскія паны прышлі на Беларусь, кіруючыся сваім дзікім нацыанальным шовінізмам, нялюдзкім жаданьнем падняволеньня, заграбленьня і дэнацыаналізацыі, кіруючыся думкай пашырэньня „тэрэнаў каланізацыйных“, каб пасьля з Галічыны, Пазнані ды Каралеўства можна было перасяліць на гэтыя „тэрэны“—беларускія землі, польскіх беззямельных ды малазямельных селян—у жаўнерскай вопратцы. Гэта ў той час, калі наш брат беларускі селянін—земляроб адвечны жыхар гэтага краю церпіць ад беззямельля!

Куды-ж падзенецца наш беларускі селянін, калі зямлёй, якую дзяды і прадзяды яго палівалі сваім крывавым потам, якую ён прывык лічыць сваёй і чакаў толькі шчасьлівай хвіліны, калі яна пяройдзе ў яго рукі і вось маеш табе радасьць ды ўцеху беларускі селянін—земляроб: тваей зямлёй польскія паны надзеляюць сваіх жаўнераў, а табе даюць вольнае права паміраць з голаду, калі ты не захочаш быць парабкам, „працоўным быдлам“ у іх польскіх маёнтках.

Ведама, гэтай шчырай праўды нашаму селяніну ніхто яшчэ не казаў. Асабліва баяцца гэтай праўды польскія паны. Бо яны добра ведаюць, калі наш селянін зразумее ўсю праўду — годзе тагды ўжо хітрыкам панскім. Селянін тагды не дасьць сябе ў крыўду.

От і з Віленскім соймам выходзіць тое-ж самае. Мы ў гэтай справе кажамо ўсю праўду. Няма чаго таіць, бо мы самі радзіліся пад страхой селянскай хаты і нам дарагі інтарэсы працоўнага селянства, якія мы лічым сваім абавязкам бараніць і ўсестароньня высьвятляць.

## Дзеля чаго—ж польскія паны склікаюць Віленскі Сойм?

Каб даць адказ на гэтае запытаньне, неабходна ясна ўсьвядоміць сабе, што такое „Сярэдная Літва“; якім чынам паўстала да жыцьця гэтая штучна ўтвораная панамі „дзержава“.

У № 2 „Селянскай Долі“ мы падробна аб гэтым пісалі. Цяпер укажам толькі на адзін характэрны факт,—ласьне „Сярэдняй Літвы“ ніколі ня было і няма такога і народу „Сярэдня-Літоўскага“, а ёсьць беларусы, літоўцы, жыды, палякі, што жывуць у нашым краі.

„Сярэднюю Літву“ штучна ўтварылі польскія паны, каб далучыць да Польшчы ўсю Віленшчыну і Горадзеншчыну, дзе большасьць жыхароў ёсьць беларускае і літоўскае працоўнае селян-

ства, а польскі элемэнт зусім невялікі і складаецца пераважна з абшарнікаў паноў ды залежнай ад іх засьцянковай шляхты“.

Польскія паны, утварыўшы „Сярэднюю Літву“—гэта быццам—то ўзбунтаваліся жаўнеры „літоўска-беларускай“ дывізіі, ў якой зусім ня было ні беларусаў, ні літоўцаў, а складалася яна пераважна з пазнанцаў ды недабіткаў розных расейскіх армій Юдэніча, Дэнікіна і г. д., што гэты „бунт“ адбыўся па загаду польскага гэнэральнага штабу—гэта так сама ўсімдобра ведама,—дык, утварыўшы „Сярэднюю Літву“ і ўстанавіўшы дзікі ражым самаўпраўства жандармэрыі, зьдзекі, насільствы і нячуваныя катаваньні ў дэфэнзывах, польскія паны відаць крыху аблічыліся—справа пашла інакш, чымся яны думалі. Авантура гэнэрала Жэлігоўскага прабудзіла зацікаўленасьць эўрапэйскіх дзержаў да віленскага пытаньня. Спрэчка паміж Літвой і Польшчай з-за Вільні стала міжнародавым фактарам,—тут зыходзяцца супярэчныя інтарэсы на ўсходзе Эўропы вялікіх дзержаў: Францыі, Англіі ды Нямеччыны. Разьвязаньне віленскага пытаньня зацягнулося на доўгі час. Адбылося некольні конфэрэнцый—у Бруксэлі і Жэнэве паміж Літвой і Польшчай пад кіраўніцтвам прэдстаўніка Лігі Нацый Гюманса, але ўсе гэтыя конфэрэнцыі нідачога ня прывялі. Апошні праэкт Гюманса, каб памірыць Літву з Польшчай, прапанаваў Вільню ў гэтай спрэчцы далучыць да Літвы, а з Віленшчыны ўтварыць асобны кантон-аўтаномную адзінку на кшталт швэйцарскіх кантонаў. За гэта вымагалася ад Літвы ўвайсьці з Польшчай у цесны эканамічны ды вайсковы саюз, але у такой меры, што Літва зусім-бы ўтраціла тагды дзержаўную сваю незалежнасьць і цалком падпала-бы пад уладу польскіх паноў ды шляхты. Само собой, Літва праэкт адкінула, і спрэчка -за Вільні пераходзіць у новую фазу. От польскія паны і рашылі ўстроіць яшчэ адну авантуру: склікаць: „правамоцнае“ прэдстаўніцтва „Сярэдняй Літвы.“ Гэтае прэдстаўніцтва мае адбыцпа ў форме „свабодна“ выбранага Сойму і і высказацца за далучэньне да Польшчы „на вечныя часы“.

Нас гэтая справа цікавіць найбольш з пункту гледжаньня абароны нашых селянскіх інтарэсаў.

## Што можа даць нам Віленскі Сойм?

От-жа, як-бы мы ні хацелі і не стараліся правясьці сваіх кандыдатаў у Віленскі Сойм, усё роўна паны іх не прапусьцяць. Дый-што сказаць, якія-ж могуць быць выбары ў Сойм, калі няма палітычнай свабоды для ня польскай нацыянальнасьці, калі пазачыняны беларускія і літоўскія часопісі, калі разгромляны ўсе беларускія арганізацыі, пазачыняны школы, нават і да коопэратываў дабраліся,—але з коопэратывамі трудней відаць крыху справіцца, дык правакацыйным спосабам знутры рашылі ўзарваць коопэратыўны саюз у Вільні, гэта таму толькі, што ў саюзе коопэратываў большасьць была беларусаў.

А ў гэты самы час інструктары ды

агітатары розных польскіх арганізацый раз‘езджаюць самі па краі, развозяць пудамі літэратуру, склікаюць мітынгі, з‘езды і г. д.

Дык якія тут могуць быць свабодныя выбары ў Віленскі Сойм? Раз няма свабоды выбараў, то, знакам тым, і выбары будуць неправамоцныя. Мала таго, што няма свабоды выбараў—у выбарах будуць прымаць удзел розныя „ужэнднікі“ (а іх уйма!), панаехаўшыя з Варшавы ды з пад Кракава, будуць мець права голасу партызаны, прыехаўшія з Верхняй Сілезіі быццам то на работы (яны лясы сякуць), а фактычна яны ўжо намечаны быць каланістамі і назаўсёды тут застануцца, бо ўжо маюць пашпарты, як сталыя жыхары нашага краю. Усе яны ўзброяны як узброяны і ўсе паны ды шляхта, лоўчыя, лясьнікі ды ўселякая панска-падлыжніцкая трасца, а тут яшчэ войска, жандармэрыя, міліцыя. От і „свабодныя“ выбары! Ясна, пры такіх штучна-абстаўленых варунках, ў Сойм змогуць прайсьці адны толькі польскія паны.

Спадзявацца ад польскага пана чагонебудзь людзкага—гэта ўсё роўна, каб сярод зімы раптам расцьвілі сады. Пан заўсёды будзе панам і, як воўка не кармі, ён заўсёды ў лес цягне. Так і польскі пан—ён заўсёды будзе цягнуць, каб абараніць свае маёнткі, а коштам нашай роднай зямелькі надзяліць сваіх служак падлыжнікаў.

Віленскі Сойм, складзяны з адных толькі польскіх паноў, ня будзе мець ніякай вагі. Гэты Сойм ніхто ня прызнае.

Польскія паны гэта ведаюць, яны дзеля гэтага і пусьціліся на розныя хітрасьці. Ім патрэбна наша згода, от яны і прыдумалі сойм, разважаючы „раз згодзяцца йсьці на выбары, а мы прымем усе меры, каб ніхто з іх кандыдатаў у Сойм не прайшоў,—само сабой, тагды мы ўжо праўна будзем гаспадарыць у гэтым краі. Чаго-ж яшчэ трэба, ўсе йшлі на выбары, не наша віна, што яны не правялі сваіх кандыдатаў“. Гэтак польскія паны хочуць зрабіць відзімасць правамоцнасьці сваей улады, а нашага гарапашніка селяніна абярнуць у свайго нявольніка, раба.

Віленскі Сойм для нас нічога добрага з сабой не нясе, а дзеля гэтага мы павінны яго байкатаваць, мы голасна павінны сказаць:

## Вон з панскім Соймам!

Няхай ад хаты да хаты пранясецца гэты магутны покліч, няхай кожны селянін ясна сабе ўсьвядоміць, што на выбары ў Віленскі Сойм нам няма чаго йсьці. Няма патрэбы самаахвоць панскі хамут накладаць на сваю шыю. Наадварот, мы павінны змагацца супроці панскіх хітрыкаў ды ашуканства, супроці новай паншчыны.

## Я к - ж а б ы ц ь?

А вось—ня трэба толькі безрадна апускаць сваіх рук, бо няма такога кепскага становішча, з якога-б нельга было знайсьці выхаду дый пры тым найлепшага. Калі мы рашылі, што Віленскі Сойм нам ніякай карысьці ня прынясе.

а толькі новую яшчэ на шыю нам закіне пятлю, калі мы ясна сабе ўсьвядомілі, што польскія паны ёсьць для нас злейшыя ворагі, дык мы павінны зрабіць з гэтага і належныя вынікі.

Адзін з вынікаў мы ўжо паказалі, гэта ня йсьці на выбары ў віленскі Сойм. Але гэтага мала. Мы павінны арганізаваць свае сілы, каб у назначаны час маглі выступіць адзінай згоднай грамадой супроці польскіх акупантаў, і прагць іх за Нараў і за Буг.

## За што мы змагаемся?

Нашай першай і аснаўной мэтай ц ца змаганьне за нашае права быць гаспадарамі ў сваім Краі, каб па свойму ўстанаўляць парадкі нашага беларускага дзержаўнага будаўніцтва, быць ні ад каго незалежнымі і мець поўнае права па свойму распараджацца ўсімі багацьцямі, а ў першы чарод па справядлівасьці разьдзяліць паміж нашым беларускім працоўным селянствам усю зямельную ўласьнасьць польскіх абшарнікаў, якія безпраўна заграбілі і ўладаюць нашай з прадвеку беларускай селянскай зямлёй.

Нашым чарговым заданьнем з'яўляецца арганізацыя сьвядомых сіл, вышаўшых з селянскае хаты, узмацаваньне нашых селянскіх радоў, пашырэньне сьвядомасьці сярод цёмных ды атсталых.

Аб'еднанымі сіламі прагонім мы з роднага Краю чужацкіх наездцаў-акупантаў і ўстановім лад новага жыцьця.

## Дык вышэй падымі галаву, беларускі селянін--земляроб!

Азірніся навакола сябе, сьмялей ідзі на сустрэч сваей будучыне.

Добра запомні і ўсьведамі сабе: апрача кайданаў няволі ты балей не маеш што траціць,—польскія грабежнікі ўсё ўжо пасьпелі забраць ад цябе.

Аднаго толькі ня ў сілах забраць—імкненьня нашага да волі, да дзержаўнай незалежнасьці нашай бацькаўшчыны. Хай ведаюць польскія каты—жыве дух паўстаньня ў грудзёх беларускага селянства!

**Т. Глеба.**

## Зноў польскі пан!

Не пасьпелі загаіцца старыя раны нашых бацькоў ад польскага бізуна, нанесяныя ў часы паншчыны, як зноў гуляе і рыхтуецца надаль гуляць па целу беларускага народу польска-панскі бізун!

І ўзапраўды! Прыглядзьцеся, добрыя людцы, што робіцца навакола нас і што мы зноў перажываем!

Польскі пан-чужаед сілком упёрся ў наш край адзіна толькі для таго, каб абараніць свае маёнткі і палацы. Зноў глуміцца польскі пан над намі праз сваіх жандараў, легіонэраў ды розных урадоўцаў. Зноў стараецца ўсімі сіламі за-

весьці паншчыну. Зноў імкнецца свае мязьлічныя даўгі, зробленыя бязглуздай Варшавай, накінуць на нашыя плечы, бо большчы цяпер на кожнага жыхара прыходзіцца з 50 тысяч даўгоў, зробляных панамі і шляхтай,—от жа, каб паменьшыць гэтыя даўгі на кожнага жыхара, польскія паны і хочуць далучыць да Польшчы наш Край, каб такім чынам і мы выплачывалі іх панска-шляхэцкія даўгі...

Зноў польскі пан зьдзекуецца над намі, называючы нас „быдлам“.

Зноў сьмяецца над нашай роднай беларускай мовай, называючы яе „хлопскай“, Зноў зачыняюцца нашы беларускія школы, а заместа нашых адчыняюцца польскія.

А для чаго усё гэта робіцца? І несьвядомаму ясна для чаго!

Каб пакорнейшым стаў наш селянін і каб ніжэй скланіў сваю гаротную галаву перад панам; каб часьцей цалаваў паганую панскую руку; каб стаў спакоймы, як аўца, якую можна стрыгчы калі хочаш і як хочаш.

А што дасьць польскі пан за нашу пакору? Чым парадуе гэты нечаканы і нежаданы „прыецяль“?

Можа накорміць паміраючых з голаду нас і дзетак нашых?

Можа нарэжа кавалкаў зямлі з свайго маёнтку—абшару і стане раздаваць беззямельным і малазямельным?

Можа іх панскі Варшаўскі Сойм дасьць падтрымку, паможа аднавіць зруйнованую вайной гаспадарку?

Так, усё гэта пан дасьць і дапаможа, але толькі сваім братам—панам, якія сядзяць у маёнтках і заседаюць у Варшаўскім Сойме, правяць гаротным народам, абдзіраюць яго і дзеляць награбленае паміж сабою.

Вось што дзеіцца наўвакола нас, браты селяне!

Але, паслухайце далей!

Польскі пан, залезшы на штыках легіонэраў у наш край, вымагае, каб „хлоп тутэйшы“ (гэтак польскія паны кажуць пра нас) ня сьмеў і думаць, што ён чалавек і мае такія-ж чалавечыя правы, як і ўсе людзі на сьвеці.

От-жа, дзеля гэтага паны-магнаты прыдумалі спосаб зусім нас паняволіць, зрабіць сваім „безадказным быдлам“. Чужаеды—паны пусьціліся на хітрасьць: яны выдумалі нейкі Віленскі Сойм, каб праз яго належным чынам „абуць“ нас у кайданы польскай няволі.

Для чаго патрэбен польскім панам Віленскі Сойм, калі яны ўжо маюць Сойм у Варшаве,—відаць нават незразумеламу дзіцяці.

Польскі пан і наогул Польшча ня мае права на нашу зямлю, бо мы асобны беларускі народ, зпрадвеку жывём на сваей роднай беларускай зямельцы. І польскія паны так сама гэта добра ведаюць, што цяпер сілаю нікога ня можна прылучыць да сваей дзержавы, раз гэтага ня хоча сам народ.

Дык вось, Польшча наставіла торбу з мякінай і кажа Горадзенскім і Вілен-

скім беларусам і літоўцам: „Хадзіце, пакармлю вас аўсом“!

Але ўсе мы добра ўжо ўбачылі, які гэта панскі корм. Мы ўсе добра ведаем, што нават тая малая дапамога, якую прысылала Амэрыка нашым галодным уцекачам,—уся гэта дапамога пайшла ў прагавітае горла польскіх паноў ды іх падлыжнікаў.

Вось, Віленскі Сойм і ёсьць гэта торба з мякінай!

Польскія паны, іграючы на нашай несьвядомасьці, хочуць нас ашукаць, узяць нас у няволю машэнствам. Яны і заклікаюць галасаваць за іх панскі Віленскі Сойм, праз які хочуць назаўсёды далучыць нас да панскай Польшчы, зрабіць назаўсёды сваімі парабкамі. Калі мы будзем галасаваць за гэты Сойм, вечная няволя і нядоля чакае нас. Ня відаць нам тагды ні зямлі, ні волі, ні лепшай долі

Каб стала яшчэ ясьней, паглядзеця, браты, на сьпіскі, за якія нам скажуць галасаваць, чытайце зверху ўніз. Хто гэтыя? Можа нашы браты—сермяжнікі? Можа запраўды нашы абаронцы? Чытайце добра, уважліва чытайце, можа знайдзеце прозвішча сваіх суседзяў—селян бедакоў, якія за барацьбу з польскімі насільнікамі цярпелі ў польскіх турмах ды лагерах?

Не! Ня знойдзеце тут ні воднага прыецаля, абаронцу нашых працоўных інтарэсаў!

Тут усё паны, шляхта ды паўпанкі, якім вельмі хочацца далучыцца да Польшчы, якія рыхтуюцца, як бы мацней зацягнуць пятлю на нашай шыі. Калі-ж бы і папаў між панамі які НАШ НІБЫ-ТО ЧАЛАВЕК, дык ведайце, што ён або сьвядома запрадаў сябе польскім панам, або адурачылі яго несьвядомага польскія паны і ксяндзы.

Але гэтакі чэлавек ужо не наш брат, а самы злы вораг нашага гаротнага народу, бо ён чарту запрадаў сваю душу!

Гэтакаму здрадніку мейсца не памiж нас, а ў віру ці ў балоце, але наперад яго шальмоўскую галаву трэба доўбняй разбіць, як той агіднай зьмяі, што выпаўзла з-пад карча.

Баранеця свае працоўныя інтарэсы!

Памятайце добра, што ні водзін пан на сьвеці не шкадуе працоўнага чалавека і ніколі ня дасьць палепшаньня яго цяжкага жыцьця.

Толькі мы самі можам палепшыць свой дабрабыт, а гэта будзе тагды, калі польскі пан перастане бадзяцца, бы тая прыбуда сабака шалёная па нашай Старонцы!

Прэч польскіх паноў і іх выдумку-Віленскі Сойм!

**Г. Дрыль.**

# ПАНСКАЯ ЗАЦЕЯ.

У шэрагу тых захадаў, якія робіць польская шляхта, каб накінуць на плечы нашаму беларускаму народу сваё панаваньне, апошні час зьявілася ў паноў новаязацея—прыманка—гэта ВіленскіСойм.

Польскія захватчыкі ведаюць добра, што Віленшчына і Горадзеншчына гэта ня іх краіны, што апынуліся яны на чале ўлады праз насільствы над мейсцовым жыхарствам, належачым да слаўнай у мінуўшчыне дзержавы Вялікага Князьства Літоўска-Беларускага.

Але гэта не застанаўлівае польскіх паноў, учапіўшыхся, як той воўк у авечку, у нашу родную зямельку.

Такая ўжо панская парода, што ня можа абыйсьціся без таго, каб ня крыўдзіць простых людзей.

На што-ж патрэбен польскай шляхце Віленскі Сойм, калі ў іх ёсьць ужо свой панскі Сойм у Варшаве?

Справа ў тым, што палякі трымаюцца, як у Віленшчыне, так у Горадзеншчыне насільствам і тое, што залезьлі сюды, ашукаўшы мяйсцовае жыхарства, нарэшці стало ўсім відавочна. І ніводна з вялікіх дзержаў, ня можа пагадзіцца з тым, каб прызнаць правы Польшчы на Віленшчыну і Горадзеншчыну.

Лапчывым панам трэба схіліць на свой бок вялікія дзержавы і дабіцца іх прыязьні і згоды, каб Віленшчына і Горадзеншчына былі прызнаны калёніямі. Польшчы.

І вось гэтыя зьдірцы і грабежнікі нашага народу надумаліся перад усім сьветам паказаць, што наш замучаны народ самахоць разам, з літвінамі, жадае, як „панскай ласкі“ лезьці ў нарыхтаваную для яго пятлю, бо, бачыце, пятля то ня простая, а панская.

Так мяркуець паміж сабой гвалтоўная польская шляхта.

Пасадзіўшы нашых беларускіх ксяндзоў (як ксяндза Пятроўскага з Барун Ашмянскаго павету) у турмы за тое, што стаяць за просты народ, паны прысылаюць цэлыя грамады Варшаўскіх ды іншых ксяндзоў.

Гэтыя пужаюць пеклам ды іншым страхацьцём нашых цёмных вясковых кабет і прапануюць ім „Рай Сьветлы“, калі будуць галасаваць за панскі Віленскі Сойм.

На селян натравяць сваіх „канарак“ —жандараў, з нагайкамі ды бізунамі і, прымусіўшы наш народ пайсьці на выбары ў Віленскі Сойм, польскія лаўкачы прымусяць падаваць галасы за панскія сьпіскі і, падмахляваўшы выбары, апавесьцяць на ўвесь сьвет: „бачыце, усе з намі, так і баўтаюцца на панскім матузку“.

Затым Віленскі Сойм прагаласуе аб далучэньні да Варшавы і так справа будзе скончана: наш народ апыніцца ў панскім варшаўскім Стойле.

І ўзапраўды, што можа даць нашаму народу Віленскі Сойм?

Скліканы панамі—акупантамі, трымаючыміся на чужацкай польскай вайсковай сіле,—ён з'яўляецца відавочным насільствам над правамі нашага народу,—бо чужацкая ўлада ня мае права, у прысутнасьці свайго войска, склікаць Сойму акупованым краі.

Як мы бачым, паны, прызвычаіўшыся да насільства, як той пьяніца да гарэлкі, не здалеюць устрымацца і прадаўжаюць сваю каінаву справу.

Склiканы акупантамі, Віленскі Сойму з'яўляецца новай панскай выдумкай, каб гальмаваць правы беларускага народу на самаадзначэньне і павядзе наш народ да культурнага і гаспадарскага занепаду.

Віленскі Сойм замацуе за польскімі панамі—каланістамі тыя землі, якія з прадвеку належалі жыўшым у братоўскім паразуменьні беларусам і літвінам, паліваліся потам і крывёю нашых бацькоў.

Віленскі Сойм нясе занепад дабрабыту і волі нашаму народу.

Віленскім Соймам жадаюць прымусіць наш народ прыслухоўвацца палітыцы варшаўскіх паноў і адпаведаць за ўсе тыя авантуры, якія прагавітае панство ўвесь час выдумляе.

Уцягнуўшы наш народ у сваё варшаўскае стойла, паны, перасварыўшыся з усімі сваімі суседзьмі—чэхамі, немцамі і расейцамі, прымусяць і нас ваяваць—праліваць за іх панскія інтарэсы нашу селянскую кроў.

Вось, браты, беларусы, хто шануе правы народу, хто жадае быць гаспадаром на зямельцы сваіх бацькоў, каму дорага воля і дабрабыт народу, хто жадае міру і спакойнае працы на карысьць беларускага адраджэньня, усе, хто верыць у справядлівасьць, не падтрымлівайце панскай зацеі—ня йдзіце на выбары ў панскі Віленскі Сойм!

Няхай гэта зацея ліхадумцаў нашага народу акупантаў—палякаў каланістаў кончыцца нічым.

Калі сілком, або пагрозай будуць прымушаць йсьці на выбары, як мага адмаўляйцеся і ў крайнім выпадку давадзіця да ведама аба ўсіх насільствах, крутні і ашуканствах польскіх захватчыкаў. Усе гэтыя весткі пасылайце да вашых абаронцаў, да рэдакцыі „Селянская Доля“.

Шляхі да нас простыя, іх ведае кожны шчыры сьвядомы сын нашай бацькаўшчыны.

Адзіным нашым лёзунгам і пажаданьнем павінен быць моцны дужы покліч:

„Вон з нашай зямлі, гвалтоўнікі, насільнікі, ліхадзеі, лапчывыя крывапійцы паны акупанты—каланісты! Ваш Сойм у Варшаве, там дурыце сабе галаву, а тутка дайце нам супакой“.

Наш народ сам па сваей совесьці і разуменьню ў згодзе і супрацоўніцтве з суседзьмі, хутчэй, чым вы, завядзе лад у сваей староньцы і забезпечыць дабрабыт усіх працоўных мас.

**Алесь Лазіна.**

———

## ЗЬМЕСТ № 4.




**Выдавец**: Сувязь Беларускага Працоўнага **Селянства**.
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.